ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 10 (59)

КАСТРЫЧНІК 1937 г.

ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1937

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 10 (59)

КАСТРЫЧНІК 1937 г.

ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1937

# ЗАГАД

## па Цэнтральнаму ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР

*гор. Масква* *№ 680* *28 кастрычніка 1937 года*

У мэтах лепшай падрыхтоўкі да надыходзячага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва прапаную:

1. Бюро перапісу насельніцтва ЦУНХУ Дзяржплана СССР арганізаваць пісьмовую кансультацыю па ўсіх пытаннях надыходзячага перапісу насельніцтва і бягучага ўчота насельніцтва.

Па ўсіх указаных пытаннях участковыя і раённыя інспектары наргасучота, работнікі абласных, краявых і рэспубліканскіх упраўленняў могуць непасрэдна звяртацца ў бюро перапісу насельніцтва ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

2. Адказы на запытанні, якія адносяцца да надыходзячага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і да ўчота насельніцтва, павінны адсылацца бюро перапісу насельніцтва непасрэдна запытваючым у трохдзённы тэрмін. Копіі адказаў пасылаюцца ў адпаведныя рэспубліканскія, краявыя, абласныя УНГУ.

П. П. Начальнік Цэнтральнага ўпраўлення народна-гаспадачага ўчота Дзяржплана СССР Верменічаў.

## Усім райгорінспектарам наргасучота, нач. акр. УНГУ, аграномам-інспектарам

10-га лістапада 1937 года СНК СССР прынята рашэнне аб правядзенні перапісу жывёлы па становішчу на 1/I 1938 г. Правядзенню перапісу жывёлы ў заключны год другой пяцігодкі і пачатку трэцяй пяцігодкі надаецца надзвычайна важнае значэнне, у звязку з чым неадкладна фарсіруйце падрыхтоўку да перапісу жывёлы па ўсіх напрамках у адпаведнасці з дасланым намі раней пісьмом ад 5 лістапада г. г. і гэтым указаннем.

У сувязі з застаўшымся надзвычайна кароткім часам да пачатку перапісу жывёлы неабходна зараз-жа разгарнуць падрыхтоўчую работу па арганізацыі перапісу.

Для чоткага і паслядоўнага правядзення падрыхтоўчых работ і самаго перапісу прапануецца скласці не пазней 25/XI (у канчатковай рэдакцыі, за выключэннем далейшага ўдасканалення спісаў населеных пунктаў) арганізацыйны план работы па раёну прыкладна з наступнымі падзеламі:

1. Падбор перапісных кадраў і ўзгадненне вылучаных асоб з сельсоветам (у межах сельсоветаў, упаўнаважаных па перапісных аддзелах у межах участка ўч. інспектара) да 20/XI г. г.

2. Зацверджанне перапісных кадраў райвыканкомам—5/XII г. г.

3. Удасканаленне спісаў населеных пунктаў і складанне спісаў калгасаў к 10/XII і гаспадарак даяржкаапсектара к 20/XI г. г.

4. Размеркаванне шчотных участкаў з указаннем населеных пунктаў, калгасаў і гаспадарак дзяржкаапсектара з дакладным указаннем меж і замацаваных за імі шчотчыкаў і старшых шчотчыкаў з указаннем дат пачатку і сканчэння перапісу па кожнаму асобна населенаму пункту—10/XII г. г.

5. Замацаванне ўпаўнаважаных за перапіснымі аддзеламі (як правіла ўчастковых інспектароў)—к 7/XII г. г.

6. Пералік ітогаў перапісу жывёлы па сельсоветах на 1/II 1937 г. і па раёнах на 1/1—37 г. у сучасных межах па 1/I 1938 г. к 15/XII 37 г.

7. Падрыхтоўка матэрыялаў (з скарыстаннем квартальнай справаздачнасці аб рабоце калгасных таварных ферм) для дакладаў перапісному персаналу і на сходах калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых і служачых к 30/XI г. г.

8. Падлік перапіснога інструментарыя (бланкаў, інструкцый), праверка забяспечанасці імі і паведамленне аб іх атрыманні сельгасаддзела УНГУ БССР—30/XI г. г.

9. Падбор інструментарыя кожнаму шчотчыку і старшаму шчотчыку—15/XII г. г.

10. Арганізацыя, пачатак правядзення масава-растлумачальнай работы сярод насельніцтва аб мэтах, задачах і значэнні перапісу жывёлы:

а) даклады на сходах ці актывах калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых і служачых па вёсках (пералічыць вёскі і ўказаць дату)—па 31/XII г. г.;

б) у мясцовым друку—(число, месяц);

в) па радыё—(число, месяц).

11. Падбор упаўнаважаных па кантрольных праверках і зацверджанне іх кандыдатур райвыканкомам—да 20/XII г. г.

12. Інструктаж рахункаводаў калгасаў і адказных за перапіс у гаспадарках дзяржкаапсектара—з 23/XII па 26/XII.

13. Інструктаж шчотчыкаў, старшых шчотчыкаў і ўпаўнаважаных па перапісных аддзелах—з 26/XII па 30/XII г. г.

14. Інструктаж брыгадзіраў кантрольных абходаў двароў—30—31/XII г. г.

15. Праверка пачатку і якасці перапісу ва ўсіх шчотных участках участковымі інспектарамі і райінспектарамі — 1—7/I 1938 г.

16. Наглядаңне за ходам складання сельсовецкіх зводак па перапісу—6—8/I 1938 г.

17. Складанне зводак па раёну, складанне дакладной запіскі і даклад старшыні РВК аб ітогах перапісу—да здачы матэрыялаў УНГУ БССР.

18. Здача матэрыялаў у ЎНГУ БССР—20—31/I 1938 г. (згодна загада УНГУ БССР).

19. Пісьмовая інфармацыя УНГУ БССР аб ходзе падрыхтоўчых работ па перапісу—20/XI, 1/XII, 15/XII, 30/XII.

Раінспектар у інфармацыях паведамляе:

1. Аб падборы перапісных кадраў (на ўсе даты).

2. Аб складанні спісаў гаспадарак дзяржкаапсектара (на 20/XI г. г.).

3. Аб ходзе растлумачальнай работы сярод насельніцтва і інш. мерапрыемствах па арганізацыі перапісу (на ўсе даты).

4. Аб забяспечанасці інструментарыем па перапісу (на 1/XII).

5. Аб складанні оргплана работ (на 1/XII).

6. Аб зацверджанні РВК перапісных кадраў (на 15/XII і 20/XII).

7. Аб размеркаванні шчотных участкаў і замацаванні шчотнага персанала (на 15/XII і 30/XII).

8. Аб пераліку ітогаў перапісу на 1/II і 1/I 1937 г. у межах на 1/I 1938 г. (на ўсе даты да 15/XII).

9. Аб падборы інструментарыя шчотчыкам (15/XII).

10. Аб правядзенні інструктажа ўсяго перапіснога персанала (на 30/XII 1937 г.).

11. Аб падборы брыгадзіраў кантрольных праверак (на 30/XII г. г.).

12. Аб удасканаленні населеных пунктаў (на ўсе даты).

Дасылаемыя намі пытанні плана работ і іх даты па перапісу з'яўляюцца прыкладнымі і павінны быць удасканалены райінспектарам, за выключэннем п. п. 3, 4, 6, 8, 12, 13, 14, 15 і 19, даты якіх з'яўляюцца канчатковымі.

Оргплан павінен быць прывезен райінспектарам на інструкцыйную нараду для ўзгаднення з бюро перапісу жывёлы ЎНГУ БССР.

На аснове складзенага аргплана райінспектарам па раёну ў сваю чаргу ўчастковыя інспектары абавязаны скласці аргплан да свайму ўчастку. Разам з гэтым растлумачваем п. 5 гэтага пісьма: раён дзеліцца на перапісныя аддзелы, межы якіх павінны дакладна супадаць з межамі ўчасткаў участковых інспектароў і па кожнаму перапісному аддзелу вылучаюцца ўпаўнаважаныя па перапісу.

Звярачваем увагу ўсіх райінспектароў на неабходнасць чоткай арганізацыі падрыхтоўчых работ і своечасовай дасылкі інфармацый.

Нам. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР Шындлер.
Начальнік аддзела ўчота сельскай гаспадаркі Гінзбург.

## Усім райінспектарам, начальнікам акруговых упраўленняў і інспектарам-аграномам наргасучота

З 1-га па 8 студзеня 1938 г. будзе праведзен чарговы ўсесаюзны перапіс жывёлы.

Праграма перапісу жывёлы на 1/I 1938 г. значна спрошчана супроць мінулагодніх перапісаў, што стварае ўсе неабходныя ўмовы для паспяховага правядзення перапісу. Учот пароднага складу жывёлы, як гэта меркавалася раней, у прадстаячым перапісу праводзіцца не будзе.

Да пачатку перапісу застаўся вельмі кароткі час, які ў звязку з гэтым павінен быць максімальна скарыстан на самую дасканалую падрыхтоўку да прадстаячай работы. Неабходна ўлічыць усе дапушчаныя памылкі ў мінулагодніх перапісах і не дапусціць іх паўтарэння ў перапісу 1938 г. Асноўнае ў тым, каб дабіцца абсалютна дакладнага ўчота ўсяго пагалоўя жывёлы.

Ужо зараз неадкладна трэба прыняць наступныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы да перапісу жывёлы:

1. **Падрытоўка спісаў населеных пунктаў.** Гэтыя спісы павінны быць безумоўна поўнымі. Звярачваю вашу ўвагу на ўключэнне ў спісы дробных населеных пунктаў, як: старожкі, чыгуначныя будкі і г. д. Каб пазбегнуць пропуска асобна стаячых будынкаў, ізаляваны распаложаных ад населенага пункта (у баку), неабходна ў канцы спіса ўказваць заўвагай пералік такіх будынкаў у мэтах абавязковага ахопа шчотчыкам апошніх і перапісу знаходзячайся там жывёлы.

Гэта работа павінна быць скончана не пазней 10 снежня.

2. **Складанне спісаў дзяржаўных і кааператыўных гаспадарак і калгасаў.** Гэта работа будзе мець значэнне і для забеспячэння паўнаты даных перапісу і пры распрацоўцы яго вынікаў. У мінулагодніх перапісах, дзякуючы нядбайнаму складанню гэтых спісаў, узнікалі непаразуменні пры

распрацоўцы вынікаў перапісу і пры размеркаванні картак дзяржаўных і кааператыўных гаспадарак па сістэмах і кіраўніцтвах. Пагэтаму дакладна праверанае ўказанне ведамства, якому падпарадкавана гаспадарка, з'яўляецца асабліва важным. Складанне гэтых спісаў у раёнах павінна быць скончана к 20/XI і спісы павінны быць прывезены на ўсебеларускую інструкцыйную нараду з мэтай параўнання гэтых спісаў са спісамі, паралельна складзенымі сельгасаддзелам па матэрыялах ведамстваў і наркаматаў.

Форма спіса наступная:

1. Катэгорыя гаспадаркі (соўгас, падсобная гаспадарка і г. д.).

2. Назва гаспадаркі.

3. Якой установе ці арганізацыі непасрэдна падпарадкавана.

4. У сістэме якога цэнтральнага ведамства ці наркамата знаходзіцца.

5. Найменне ўпраўлення (для НКСоўгасаў, НКЗема і НКХарчпрома).

3. Размеркаванне тэрыторыі на шчотныя ўчасткі. У бліжэйшы час бюро перапісу жывёлы ЎНГУ БССР паведаміць вам колькасць зацверджаных шчотных участкаў па раёну, размер асігнавання на аплату шчотчыкаў і сярэдні размер аплаты аднаго шчотчыка.

Да інстукцыйнай нарады райінспектары павінны на падставе зацверджанай колькасці шчотных участкаў прадставіць для ўзгаднення з бюро перапісу ЎНГУ БССР канчатковы склад шчотных участкаў.

Шчотныя ўчасткі павінны быць складзены такім чынам, каб іх межы былі дакладна вызначаны і каб была выключана магчымасць пропускаў жывёлы па межах побач ляжачых участкаў.

Пры ўстанаўленні склада шчотных участкаў і іх межаў раённыя інспектары павінны звярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб не прапусціць рабочых і служачых, пражываючых на тэрыторыі соўгасаў.

4. Пералік колькаснасці жывёлы. Неабходна пералічыць сельсовецкія ітогі на 1/II 1937 г. у межах на 1/I 1938 г. у тых раёнах, дзе межы сельсоветаў за гэты год змяніліся.

Усе пералікі вытвараюцца па поўнай праграме ўзросных і палавых груп жывёлы, па якой праводзіўся перапіс на 1/II 1937 г.

5. Райінспектар да 25/XI г.г. павінен скласці схематычную картку раёна з размяшчэннем усіх населеных пунктаў, межаў сельсоветаў з выдзяленнем тэрыторыі соўгасаў, паласы адчужджэння чыгункі, воднага транспарта і г. д. На схему таксама наносяцца межы перапісных і шчотных участкаў.

6. Падбор шчотнага персанала. Да падбора шчточыкаў раённыя інспектары павінны прыступіць зараз-жа, каб кожная кандыдатура была папярэдне ўзгоднена з сельсоветам, на тэрыторыі якога шчотчык будзе працаваць. Увесь шчотны персанал падбіраецца з палітычна надзейных і тэхнічна пісьменных людзей, і абавязкова кожная кандыдатура асобна разглядаецца і зацвярджаецца райвыканкомам. Кадры шчотчыкаў падбіраюцца з 30-проц. запасам.

К 20/XI прадставіць інфармацыю ў бюро перапісу жывёлы ЎНГУ БССР аб ходзе падрыхтоўчых работ да перапісу.

Ч. в. а. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР **Абудзееў.**

5 лістапада 1937 г.
№ 5/3.

## Райінспектарам Наргасучота

У сувязі з разгортваннем падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва 1939 г., асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на паўнату рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану органамі ЗАГС'а. Атрымоўваемыя намі штомесячныя зводкі па натуральнаму руху насельніцтва часта няпоўныя, у іх адсутнічаюць даныя 1—2 сельсоветаў, ёсць блытаніна ў нумарацыі. Няпоўныя даныя прысылаюць раёны: Барысаўскі, Мазырскі, Полацкі, Журавіцкі, Клічаўскі, Крычаўскі, Дрыбінскі, Суражскі, Лепельскі і інш. Асабліва блытаніна ў нумарацыі ў зводках наглядаецца па раёнах: Сенненскаму, Мазырскаму, Клічаўскаму, Грэскаму, Петрыкаўскаму і інш.

Райгорінспектары пусцілі гэту работу на самацёк, абмяжоўваючыся толькі атрыманнем зводкі ў аддзелах ЗАГС'а і механічнай яе перасылкай у аддзел насельніцтва, між тым райінспектары і ўчастковыя інспектары абавязаны аказваць усямерную і сістэматычную дапамогу органам ЗАГС'а па наладжванню ўчота і па сцягванню матэрыялаў у строга вызначаны тэрмін.

Правільная пастаноўка рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану і паўната рэгістрацыі з'яўляюцца аднымі з важнейшых элементаў у падрыхтоўчай рабоце да перапісу насельніцтва 1939 года.

Прапаную прыняць усе захады, каб наладзіць паўнату рэгістрацыі і правядзенне работы па збору поўнага матэрыяла па натуральнаму руху насельніцтва ў строга вызначаны тэрмін.

Аб вашых мерапрыемствах паведаміце мне.

Нам. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР Шындлер.

1 лістапада 1937 г. № 151.

# ЗАГАД № 856

## па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 17/X 1937 г.*

§ 1

Пры праверцы работы Гомельскай райінспектуры па ўчоту масавых абмалотаў і выяўленню страт аграномам-інспектарам УНГУ т. Марусік устаноўлена:

Участковы інспектар т. Сідзельнікаў нядобрасумленна выканаў работу па ўчоту абмалотаў і выяўленню страт, і ў выніку работа не была выканана ва ўстаноўлены ЎНГУ тэрмін—к 10 кастрычніка.

Участковы інспектар т. Дзятлаў у калгасах „Чырвоная воля" і „Клім Варашылаў" нядбайна аднёсся да праверкі ўчота абмалотаў, праштампаваў яўна няправільныя лічбы, даныя калгасамі ў райЗА, напісаўшы на картцы, што „недаўчота няма". Пасля праверкі выяўлен быў недаўчот зярна па асобных культурах ад 1,0 да 6,0 цэнтн. на 1 га.

§ 2

За нядобрасумленныя адносіны да работы па ўчоту абмалотаў і выяўленню страт, што прывяло да зрыва работы ва ўстаноўлены тэрмін, т. Сідзельнікаву аб'яўляю суровую вымову.

За нядбайныя адносіны да работы па праверцы ўчота абмалотаў т. Дзятлаву аб'яўляю вымову.

Указаць райінспектару т. Ліберману, што з яго боку не былі своечасова прыняты меры да забеспячэння і выканання гэтай работы ва ўстаноўлены тэрмін.

§ 3

Адзначаю добрасумленную работу ўчастковага інспектара Цэрахоўскага раёна т. Вегера па ўчоту абмалотаў і выяўленню страт.

Ч.в.а. начальніка ЎНГУ БССР Абудзееў.

# ЗАГАД № 905

## па Ўпраўленню Наргасучота БССР

*ад 3/XI 1937 года.*

Абследваннем фінансавага становішча Пухавіцкай раённай інспектуры ўстаноўлена:

1. Райінспектар тав. Грыб незаконна выплаціў два разы ў адзін і той-жа месяц зарплату ўчастковым інспектарам:

тав. Высоцкаму за лістапад 1935 года 154 р. 60 кап., тав. Блешчову за лістапад 1935 г.—110 р. і тав. Іванову за чэрвень 1937 года—157 р., а разам 421 рубл. 60 кап.

2. Акрамя гэтага па становішчу на 1/X 1937 г. маецца падсправаздача за тав. Грыбам 233 р. 91 кап., на якую суму няма апраўдальных дакументаў.

На падставе вышэйпаказанага загадваю:

1. Прапанаваць тав. Грыбу неадкладна ўнесці наяўнымі ў касу ЎНГУ, як незаконна выплачаную зарплату, усяго ў суме 421 р. 60 к., а на суму падсправаздачы 233 р. 91 кап. да 15 лістапада г. г. адчытацца перад бухгалтэрыяй УНГУ дакументамі.

2. Папярэджваю тав. Грыба, што ў выпадку паўтарэння незаконных выплат і прадстаўлення нядобраякасных дакументаў ён будзе аддан пад суд.

3. Бухгалтэрыі ЎНГУ прасачыць за выкананнем гэтага загада і аб выніках далажыць мне 17-га лістапада г. г.

Ч.в.а. начальніка ЎНГУ БССР Абудзееў.

## ЗАГАД № 909

### па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 9/IX 1937 года.*

Пры праверцы работы Мсціслаўскай інспектуры Наргасучота ўстаноўлена:

1. Па Хадосаўскаму сельскаму совету (участковы інспектар Дальнічэнка) учот зусім адсутнічае: у пагаспадарчых кнігах не робяцца адзнакі аб нараджэнні і смерці з студзеня м-ца 1937 г., спісы гаспадарак і асоб, часова пражываючых на тэрыторыі данага с/совета (ф. № 4 і 4-а), не вядуцца: кніга сельскагаспадарчых кампаній (ф. № 18) не заведзена, а сакратар, які працуе ў сельсовеце год і два месяцы, аб ёй і паняцця не мае.

2. Па калгасу „Асоавіяхім", Хадосаўскага с/совета, ніколі не вядуцца зваротныя ведамасці, адсутнічае інвентарная кніга; па кнізе вырашчывання маладняка не робяцца адзнакі аб пераводзе ягнят у другую ўзросную групу; за кастрычнік месяц не аформлены 15 аперацый і па асабовых рахунках калгаснікаў працадні вядуцца не па 5-дзёнках, а раз у канцы месяца.

3. Участковы інспектар т. Дальнічэнка, праводзячы па калгасу „Асоавіяхім" вымярэнне страт бульбы, падышоў да

гэтай справы нядобрасумленна, паказаўшы, што страты бульбы на адзін га пры першай копцы складаюць 2,27 цнтн., тады як пры праверцы аказалася 26,6 цнтн. Што датычыцца пададзенай калгаснікамі заявы на т. Дальнічэнка аб прысваенні апошнім жыта, аўса і бульбы ад метравання, дык, не гледзячы на тое, што сам факт прысваення яшчэ дакладна не ўстаноўлен, ёсць усе падставы лічыць, што т. Дальнічэнка, увайшоўшы ў згоду з кладаўшчыком калгаса, прысвоіў сабе гэтыя прадукты.

Безумоўна, такое становішча спраў інспектуры магло здарыцца толькі дзякуючы таму, што райінспектар т. Белоў недастаткова кіраваў участковымі інспектарамі і справу праверкі іх работы пусціў на самацёк.

Выходзячы з вышэйпаказанага, з а г а д в а ю:

1. Участковага інспектара Дальнічэнка за вочкаўціраце́льства пры вымярэнні страт бульбы і за нядбайные адносіны да службовых абавязкаў—зняць з работы з 2/XI 1937 года.

2. Справу аб прысваенні ўчастковым інспектарам Дальнічэнка жыта, аўса і бульбы ад метравання направіць раённаму пракурору на прадмет далейшага расследвання і прыцягнення вінаватых да судовай адказнасці.

3. Райінспектару т. Белову за паслабленне кіраўніцтва ўчастковымі інспектарамі і недастатковы кантроль іх работы—аб'явіць вымову.

4. Прапанаваць тав. Белову ў бліжэйшы час ліквідаваць маючыяся прарывы ў рабоце інспектуры згодна акта абследвання.

Ч. в. а. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР Абудзееў.

## Усім акруговым упраўленнем і райінспектарам Наргасучота

УНГУ БССР мае звесткі аб тым, што ў некаторых раёнах райЗА патрабуюць ад калгасаў дасылкі ім кармавых балансаў па формах, распрацаваных самімі райЗА і незацверджаных ЦУНХУ, як справаздачнасць.

Учотная інспекцыя прапануе праверыць гэта на месцы і ў выпадку пацверджання гэтых фактаў забараніць складанне работнікамі калгаса кармавых балансаў для райЗА, як неўзаконеную справаздачнасць.

Запаўненне такіх форм дапускаецца толькі зоатэхнікамі шляхам асабістага выезда ў калгасы.

Начальнік учотнай інспекцыі УНГУ БССР Магідаў.

## Выпіска з пратакола паседжання арганізацыйнага камітэта Гомельскага раёна

*ад 14 кастрычніка 1937 года.*

Слухалі:

Аб выпадках дачы неправідловых звестак аб ходзе сяўбы азімых, змешвання сартавога збожжа з несартавым і адсутнічання ўліку хавання збожжа па калгасу „Чырвоны герой", Дзятлавіцкага сельсовета (дакл. т. ЛІБЕРМАН—Наргасучот, ФАЛЬКО—старшыня калгаса).

Пастанавілі:

Устанавіць, што ў калгасе „Чырвоны герой", Дзятлавіцкага сельсовета, мела месца дача неправідловых звестак аб ходзе сяўбы азімых, наглядаліся факты змешвання сартавога збожжа з несартавым і поўнае адсутнічанне ўліку хавання збожжа, аб чым сведчыць акт інспектара наргасучота. Усё гэта сведчыць аб тым, што ў калгасе „Чырвоны герой" яшчэ не да канца выкрыты ворагі народу, якія праводзяць шкодніцкія справы па зрыву калгаснага будаўніцтва. Такое з'явішча здарылася таму, што з боку старшыні калгаса ФАЛЬКО і старшыні сельсовета БЕЦІНА адсутнічае кантроль за захаваннем збожжа і барацьба па выкрыццю да канца ўсіх ворагаў народу, якія яшчэ засталіся ў калгасе. Толькі з-за палітычнай слепаты старшыні калгаса Фалько былы заг. гаспадаркі ВОЛКАЎ дапусціў наўмыснае змешванне сартавога збо жжа з несартавым і заблытаў улік хавання збожжа.

Прыняць да ведама заяву інспектара наргасучота і т. Фалько, што пасля ўказання інспектара ўсе вышэй паканыя недахопы калгасам выпраўлены.

За дапушчэнне ўсіх гэтых агіднасцей, за прадстаўленне направідловых звестак аб сяўбе т. Фалько абвясціць вымову з папярэджаннем.

Прапанаваць т. Фалько наладзіць улік ураджая 1937 года як па колькасці, так і па якасці, устанавіўшы ахову ураджая з правераных калгаснікаў.

Даручыць т. КАЗЛОВУ камандыраваць у калгас „Чырвоны герой" рэвізора па фінансавай справе для рэвізіі спраў калгаса і аказання дапамогі ў пастаноўцы ўліку.

Вынікі рэвізіі абгаварыць на чарговым паседжанні аргкамітэта.

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Чашніцкага раённага выканаўчага камітэта

*ад 21-га кастрычніка 1937 г.*

1. Па інфармацыі інспектара Наргасучота т. ЯЛАВА аб якасці ўборкі бульбы ў калгасе „Чырвоная зорка“, Альшанскага сельсовета, і „1-га Мая“, Цяпінскага сельсовета, адзначыць, што з боку райЗА, МТС, сельсоветаў і праўленняў калгасаў не былі своечасова прыняты меры па барацьбе са стратамі пры ўборцы бульбы. У выніку чаго маем, што згодна даных райінспектуры НГУ, пры ўборцы бульбы ў калгасе „Чырвоная зорка“, Альшанскага сельсовета, засталося ў зямлі няўбранай бульбы 2166 кгр. з аднаго га і ў калгасе „1 Мая“, Цяпінскага сельсовета, 2190 кгр. з га; гэта мае месца і ў астатніх калгасах раёна: Такое з'явішча з'яўляецца нічым іншым, як абясцэньваннем працадня калгаснікаў.

2. Лічачы такое становішча з уборкай бульбы—па чыстаце ўборкі—ні ў якім разе недапушчальным, абавязаць райЗА, МТС, сельсоветы і праўленні калгасаў забяспечыць на працягу 3-4 дзён паўсяместнае пераворванне бульбы ва ўсіх калгасах раёна.

3. Папярэдзіць старшыню калгаса „Чырвоная зорка“, Альшанскага сельсовета, і „1 Мая“, Цяпінскага сельсовета, што калі яны не забяспечаць пераворванне бульбы на ўсіх участках, яны будуць прыцягнуты да адказнасці як за яўнае шкодніцтва, накіраванае на падрыў эканомікі калгасаў і калгаснікаў.

4. Абавязаць райЗА і МТС накіраваць сваіх спецыялістаў у калгасы для неадкладнай арганізацыі работ па пераворванню бульбы і забеспячэння пераворвання бульбы на працягу паказанага тэрміна.

Старшыня райвыканкома Калінін.

## Загадчыкам райЗА, дырэктарам МТС, копія райінспектарам наргасучота

Работнікамі наргасучота пры праверцы становішча ўчота ў калгасах выяўлена, што справаздачнасць там вядзецца вельмі дрэнна і заблытана. Не вядуцца належным чынам усе кнігі і формы пярвічнага калгаснага ўчота, а гэта дае магчымасць шкоднікам рабіць розныя злоўжыванні, абліч-ваць калгаснікаў, раскрадваць калгасную маёмасць і г. д.

Асабліва гэта датычыцца ўчота працадзён, разноскі іх па асабовых рахунках і занясення ў працоўныя кніжкі. У правераных калгасах „Пролетарый“, Жыткавіцкага местсовета, „15 з‘езд ВКП“, Стадоліцкага сельсовета, і „Чырвоны бор“, Грэбеніцкага сельсовета, Лельчыцкага раёна, працадні не занесены ў працоўныя кніжкі пачынаючы з красавіка месяца, пры чым у калгасе „Чырвоны бор“ працоўныя кніжкі за 1-е паўгоддзе наогул згублены, а ў новыя кніжкі, заведзеныя з 1-га ліпеня, да гэтага часу не занесены працадні за верасень і кастрычнік месяцы 1937 года.

Зусім дрэнна таксама абстаіць справа з пастаноўкай ўчота і справаздачнасці па таварных фермах. Замест вядзення штодзённага журнала ўдояў кожнай каровы паасобку, а таксама кнігі маладняка, кнігі матак і г. д., запісы малака вядуцца сумарна па даярках, прыплод падзеж, убой не заўсёды афармляюцца актам, з прычыны чаго запісы кніг не адпавядаюць наяўнасці стада.

Прычынай усяго гэтага ў першую чаргу з‘яўляецца тое, што інструктары па ўчоту райЗА і МТС вельмі рэдка бываюць у калгасах і фактычна не аказваюць дапамогі ў наладжванні там учота, а загадчыкі райЗА і дырэктары МТС наогул лічаць для сябе лішнім і непатрэбным займацца пытаннямі ўчота і справаздачнасці ў калгасах.

Надалей акрвыканком гэтакае становішча цярпець не будзе.

Прапаную неадкладна накіраваць сваіх работнікаў у калгасы і ў самы бліжэйшы тэрмін забяспечыць поўную ліквідацыю шкодніцтва ва ўчоце і справаздачнасці ў калгасах. У прыватнасці, звярніце асаблівую ўвагу на тое, каб запісы працадзён у працоўныя кніжкі калгаснікаў вытвараліся абавязкова кожную пяцідзёнку.

Вінаватых у свядомым заблытванні ўчота прыцягвайце да суровай адказнасці.

Нам. старшыні Мазырскага акрвыканкома Левін.

22 кастрычніка 1937 г. № С/6.

## Выпіска з пратакола паседажння прэзідыума Лоеўскага РВК

*ад 16/X 1937 г.*

Слухалі: Аб дрэннай пастаноўцы ўчота ў калгасах „Дзяржынскі“, „Абарона краіны“ і інш. Лоеўскага раёна.

Пастанавілі: Даручыць загадчыку райЗА т. Юрчанка выехаць у калгасы „Дзяржынскі“ і „Абарона краіны“ з сваім

інструктарам-бухгалтарам для праверкі і наладжвання ўчота. Адначасова, улічваючы важнасць такога пытання, як пастаноўка ўчота ў калгасах, прапанаваць райЗА ў лістападзе месяцы склікаць нараду рахункаводаў і паставіць пытанне аб наладжванні ўчота ў калгасах.

Сакратар РВК Зеленскі.

### *Старшыні Даманавіцкага райвыканкома т. Галавачэнка*

Акрвыканком ужо некалькі разоў указваў на неабходнасць правільнай пастаноўкі і своечасовага вядзення пярвічнага ўчота ў сельсоветах.

Паміж іншым, згодна паведамлення Даманавіцкай райінспектуры наргасучота, у Азарыцкім местсовеце пярвічны ўчот да гэтага часу знаходзіцца ў хаатычным становішчы, не гледзячы на дапамогу і ўказанні райінспектуры Наргасучота аб наладжванні яго.

Акрвыканком прапануе ў самы бліжэйшы тэрмін заслухаць на прэзідыуме РВК старшыню і сакратара Азарыцкага местсовета аб забеспячэнні імі ўпарадкавання пярвічнага ўчота.

Нам. старшыні Мазырскага акрвыканкома Левін.

1 лістапада 1937 г. № С/06.

## ЗАГАД № 6

### па Хойніцкай райінспектуры Наргасучота

*ад 15 кастрычніка 1937 г.*

§ 1

Вытвараная ў калгасе „Аўрора“ інспектарам 2-го ўчастка т. Ямпольскім, А. А., праверка якасці выбаркі бульбы паказала, што т. Ямпольскі, А. А., да выяўлення ўраджайнасці і страт пры ўборцы бульбы падышоў несур'ёзна, у звязку з чым матэрыял поўнасцю не мог быць скарыстаны. Такія адносіны выклікаюць сумненне і ў правільнасці складання формы № 2 па абмалоту, даныя якой рэзка разыходзяцца з вытвараным метраваннем.

Таксама, не гледзячы на неаднаразовыя напамінанні, т. Ямпольскі, А. А., на працягу месяца не вядзе дзенніка, а выезд у калгас „Аўрора“ зацягнуў на 2 дні. Усё гэта сведчыць аб недысцыплінаванасці т. Ямпольскага, А. А., які да справы ўчота адносіцца павярхоўна, без глыбокага

аналіза, не ўвязваючы ўсіх відаў работ пры наведванні калгасаў і сельсоветаў, што выклікае непатрэбную цяганіну і дарэмную трату часу (кур'ерства).

Папярэдзіць т. Ямпольскага, што ў выпадку далейшага працягвання з яго боку павярхоўных адносін да сваіх абавязкаў, да яго будуць ужыты суровыя меры ўздзейнічання.

§ 2

Катэгарычна абавязваю ўчастковых інспектароў весці ў дзенніку сістэматычныя запісы аб вытваранай рабоце з абавязковай адзнакай кіраўніка наведваемай установы.

Папярэджаю, што адсутнасць дзенных запісаў буду разглядаць як прагул, з вылічэннем зарплаты.

§ 3

Тав. Аўчыннікаву, К. К., да 20/Х 1937 г. выехаць у калгас „Аўрора" і ўтварыць праверку якасці вытвараных т. Ямпольскім, А. А., работ па абмалоту і выбарцы бульбы.

Райінспектар НГУ Барысаў.

## ЗАГАД № 25

### па Мазырскаму акруговаму ўпраўленню Наргасучота

*ад 15 кастрычніка 1937 года.*

Мною 28/VIII 1937 г. было прапанавана ўсім райінспектарам наргасучота наладзіць па ўсіх сельсоветах і асабіста праверыць у 2-3-х сельсоветах становішча пярвічнага ўчота і да 5/IX 1937 г. прадставіць акты праверкі ў акруговае ЎНГУ.

Інспектар наргасучота Мазырскага раёна Пехота не выканаў майго распараджэння і да сёнешняга дня не праверыў становішча сельсовецкага ўчота ні ў адным сельсовеце, не дапамог сельсоветам знішчыць недахопы ў пастаноўцы гэтай работы, не гледзячы на тое, што ў верасні месяцы ў Якімавіцкім і Юравіцкім сельсоветах быў доўгі час.

Папярэджваю т. Пехоту аб тым, што калі ім не будуць прыняты рашучыя меры да наладжвання сельсовецкага ўчота і ён у бліжэйшыя дні не прадставіць у акруговае ЎНГУ акты асабістай праверкі 2-х сельсоветаў,—ён будзе прыцягнут да адказнасці.

Начальнік Мазырскага акруговага ЎНГУ—Флеер.

# СОЦДАГАВОР

1937 года, кастрычніка, 22 дня. Мы, работнікі Шклоўскай райінспектуры Наргасучота, абгаварыўшы на нарадзе становішча работ па райінспектуры і ўлічваючы ўсю тую адказнасць, якая ўскладаецца зараз на нас, як работнікаў учота, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы на час да канца 1937 года:

1. Ліквідаваць да 1 лістапада маючыяся прарывы ў рабоце і не дапушчаць іх у далейшым.

2. Своечасова і добраякасна правесці работы: а) па выяўленню страт пры копцы бульбы, б) па праверцы абмалотаў, в) па кантрольнаму ўчоту культасветных устаноў.

3. Забяспечыць упарадкаванне пярвічнага ўчота ў сельсаветах і завядзенне кніг і форм гэтага ўчота на 1938 год.

4. Павышаць свае веды шляхам заняткаў у палітгуртках, арганізацыі тэхвучобы і г. д.

5. Праводзіць з рахункаводамі калгасаў нарады на ўчастках па пытаннях учота і справаздачнасці.

Па ўказаных вышэй пунктах выклікаем на соцспаборніцтва Брагінскую райінспектуру наргасучота.

Арбітрам просім быць учотную інспекцыю ЎНГУ.

Райінспектар Марсаў.

Участковыя інспектары: Палякоў, Радзецкі, Сідляроў, Дурасевіч.

Эканаміст Малашка.

Інструктар-статыстык Данілава.

# СОЦДАГАВОР,

## прыняты на нарадзе ўчастковых інспектароў і работнікаў апарата Рагачоўскай райінспектуры Наргасучота

*12 верасня 1937 года.*

У мэтах лепшага выканання плана ўчотна-статыстычных работ на 1937 год шляхам прымянення соцыялістычных метадаў работы, мы, работнікі Рагачоўскай райінспектуры Наргасучота, прымаем на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Штомесячна складаць планы работ і забеспечваць поўнае выкананне іх; праводзіць у канцы кожнага месяца вытворчыя нарады для падагулення вынікаў работы за

мінулы месяц і абгаварэнне плана работ на наступны месяц.

2. Праверыць вядзенне кніг і форм пярвічнага ўчота ў сельсоветах да 25 верасня і ў калгасах да 10 кастрычніка; штомесячна рабіць праверку становішча гэтага ўчота і практычна дапамагаць у наладжванні яго.

3. Для павышэння сваёй кваліфікацыі на працягу часу да канца 1937 года рэгулярна, не менш аднаго разу ў месяц, праводзіць заняткі па тэхвучобе (вывучэнне тэорыі статыстыкі і бухгалтарскага ўчота), рэгулярна чытаць газеты і літаратуру.

4. Трымаць сувязь з мясцовай газетай і асвятляць на старонках яе пытанні аб работах райінспектуры.

5. Усе работы па заданнях ЦУНХУ і ЎНГУ, як-та: выяўленне страт па вызначаных культурах, знятце метровак па бульбе, праверка якасці копкі бульбы і правільнасці прыходвання, праверка абмалотаў, праверка аперацыйнай справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах па азімай сяўбе і зяблеваму ворыву, складанне і дасылка квартальнай справаздачнасці калгасных ферм, правядзенне ўчотных работ па культбудаўніцтву, насельніцтву, ахове здароўя, капітальнаму будаўніцтву, па працы і прамысловасці выконваць у тэрміны і высокаякасна. Своечасова правяраць і дасылаць у ЎНГУ матэрыялы, атрымоўваемыя ад участковых інспектароў і арганізацый, дабіваючыся таго, каб не было напамінкаў і запытанняў ад УНГУ па дасылаемых матэрыялах.

6. Па ўсіх вышэйпаказаных пунктах выклікаем на соцспаборніцтва Гомельскую райінспектуру Наргасучота.

Райінспектар НГУ Міляўскі.

Участковыя інспектары: Каласкоў, Казлоўскі, Шынкевіч, Шыленкоў.

Інструктар-статыстык Рутман.

## ПРАТАКОЛ

### вытворчай нарады работнікаў Свяцілавіцкай райінспектуры Наргасучота

*ад 9 кастрычніка 1937 года.*

Прысутнічалі: райінспектар Свяцілавіцкага раёна т. Ляшкевіч, ч.в.а. райінспектара Веткаўскай райінспектуры т. Кабыш і раз'язны інспектар Упраўлення Наргасучота т. Голад.

Слухалі: Аб выкананні заключанага соцдагавора 1936-37 года паміж Свяцілавіцкай і Веткаўскай райінспектурамі наргасучота і заключэнне соцдагавора на 1937-38 год (даклад т. Голад).

Пастанавілі: Заслухаўшы даклад т. Голада аб выкананні соцдагавора 1936-1937 года і заключэнні дагавора на 1937-38 год, вытворчая нарада адзначае, што ў выніку заключанага дагавора на соцспаборніцтва райінспектуры Наргасучота Свяцілавіцкага і Веткаўскага раёнаў дабіліся значных поспехаў у пастаноўцы работы па ўчоту і справаздачнасці. Але разам з станоўчымі бакамі маецца і рад недахопаў, як-та:

1. Сістэматычна не складаліся планы для ўчастковых інспектароў.

2. Вытворчыя нарады работнікаў райінспектур праводзіліся не рэгулярна.

3. Недастаткова даводзілася да ведама РВК і КП(б)Б аб прарывах у рабоце і ў галіне пастаноўкі ўчота ў раёнах. Надаючы асабліва важнае палітычнае і гаспадарчае значэнне ўчоту і спрвахдачнасці, райінспектуры Свяцілавіцкага і Веткаўскага раёнаў заключаюць паміж сабой соцдагавор на лепшую пастаноўку работы ў галіне ўчота і справаздачнасці ў раёнах і бяруць на сябе наступныя абавязацельствы.

1. У азнаменаванне 20-й гадавіны Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі ў СССР мы абавязваемся праверыць не менш як у 50 проц. сельсоветаў і калгасаў становішча ўчота і справаздачнасці з дакладам на прэзідыуме РВК і аказаннем практычнай дапамогі адстаючым сельсоветам і калгасам у пастаноўцы ўчота і справаздачнасці.

2. Датэрмінова скончыць усе работы к 20-й гадавіне Кастрычніка, а іменна:

а) адаслаць усе матэрыялы па працы і зарплаце к 15/Х--37 г.;

б) закончыць распрацоўку справаздачнасці калгасных таварных ферм і матэрыял прадставіць у ЎНГУ не пазней як 13/Х 1937 года;

в) не пазней як 11/Х 1937 г. адаслаць усе матэрыялы ў УНГУ па кантрольных абмалотах;

г) запоўніць усе раздзелы ў кнізе „Асноўныя паказчыкі раёна“; не пазней 13/Х 1937 г. адаслаць матэрыялы ў аддзел культуры і навукі па ўчсту ўстаноў народнай асветы.

3. Рэгулярна складаць планы работ участковых інспектароў і весці сістэматычны нагляд за іх выкананнем шляхам праверкі дзеннікаў і выездаў на месца: своечасова адсылаць у ЎНГУ ацэнку на кожнага ўчастковага інспектара персанальна.

4. Разгарнуць соцспаборніцтва сярод работнікаў інспектуры шляхам заключэння індывідуальных соцдагавароў.

5. Не радзей аднаго раза ў месяц склікаць вытворчыя нарады работнікаў інспектуры для падвядзення ітогаў работы і абгаварэння надыходзячых работ.

6. Разгарнуць соцспаборніцтва сярод шчотных работнікаў раёна (бухгалтароў калгасаў, МТС, арганізацый і сельсоветаў), дабіваючыся 100% ахопу іх. Трымаць цесную сувязь з друкам, асвятляючы на яго старонках правядзенне тых або іншых мерапрыемстваў па ўчоту, даючы аналіз асобных галін народнай гаспадаркі раёна. Выкананне гэтага дагавора праверыць у снежні месяцы 1937 года з удзелам раз'язнога інспектара КНГУ БССР. Гэты дагавор падпісалі:

Райінспектар Свяцілавіцкага раёна Ляшкевіч.
Ч.в.а. райнспектара Веткаўскага раёна—Кабыш.
Інспектар УНГУ БССР—Голад.

## С П І С
### РАЙІНСПЕКТУР, ЯКІЯ ЎКЛЮЧЫЛІСЯ Ў СОЦСПАБОРНІЦТВА

| №№ п. п. | Уключыліся ў соцспаборніцтва | З якой інспектурай спаборнічае |
|---|---|---|
| 1. | Райінспектура Мазырскай акругі . . . . . . . . . | З райінспектурамі Слуцкай акругі |
| 2. | Дрысенская . . . . . . . . | „ Расонскай |
| 3. | Бабруйская . . . . . . . . | „ Карэноўскай (Азова-Чорнаморскага края) |
| 4. | Камарынская . . . . . . . . | „ Брагінскай |
| 5. | Глуская . . . . . . . . . . | „ Парыцкай |
| 6. | Шклоўская . . . . . . . . . | „ Брагінскай |
| 7. | Рагачоўская . . . . . . . . | „ Гомельскай |
| 8. | Свяцілавіцкая . . . . . . . | Веткаўскай |

## Ацэнка работы райінспектур наргасучота за кастрычнік 1937 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Механічны рух насельн. | Натуральны рух насельн. | Бюджэты | Цэны калгаснага гандлю | Грамадскае харчаванне за III кв. | Учот працы: Бягучы учот за III кв. | Прамыслов. | Будаўніцтва | Соўгасы і МТС | Квартальная справаздачнасць калгасных ферм за III кв. | Прадстаўленне даных аб стратах | Прадстаўленне даных па абмалотах | Праверка ўчота ў калгасах | Школы ўсеагульнага навучання | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Асвейскі | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 5 | 5 | 3 | 5 | 4,4 |
| 2. Асіпавіцкі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | — | 5 | 2 | 4 | 2 | 2 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3,6 |
| 3. Бабруйскі | 2 | 5 | 5 | — | 5 | 4 | 5 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3,8 |
| 4. Багушэўскі | 2 | 4 | 5 | — | 3 | 0 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 | 5 | 0 | 5 | 3,5 |
| 5. Барысаўскі | 2 | 5 | 3 | 4 | 2 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 3,5 |
| 6. Бешанковіцкі | 2 | 5 | 4 | — | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3,7 |
| 7. Брагінскі | 2 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3,7 |
| 8. Будакашал. | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 4 | 4 | 5 | — | 5 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4,4 |
| 9. Быхаўскі | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 5 | 3,5 |
| 10. Бягомльскі | 3 | 5 | 4 | — | 3 | 0 | 3 | 2 | 2 | 4 | 3 | 3 | 5 | 3 | 4 | 3,1 |
| 11. Бялыніцкі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 5 | 4 | 5 | — | 5 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3 | 4,1 |
| 12. Бярэзінскі | 3 | 4 | 4 | 2 | 4 | — | 3 | 2 | 2 | 3 | 2 | 4 | 3 | 2 | 3 | 2,9 |
| 13. Веткаўскі | 3 | 4 | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 | 4 | 0 | 4 | 3,4 |
| 14. Ветрынскі | 3 | 5 | 4 | — | 4 | 3 | 4 | 3 | 2 | 3 | 2 | 1 | 4 | 5 | 4 | 3,3 |
| 15. Віцебск (горад) | 2 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 5 | 3 | 3 | — | — | — | — | — | 5 | 4,3 |
| 16. Віцебскі | 3 | — | 5 | — | — | — | 3 | 2 | 3 | 2 | 4 | 5 | 2 | 0 | 3 | 2,9 |
| 17. Гарадоцкі | 3 | 4 | 4 | — | 4 | 0 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 | 4 | 5 | 2 | 4 | 2,9 |
| 18. Глускі | 2 | 4 | 3 | — | 4 | 4 | 5 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3,7 |
| 19. Гомель (горад) | 2 | 5 | 5 | 4 | 5 | 5 | 3 | 2 | 3 | — | — | — | — | — | 3 | 3,8 |
| 20. Гомельскі | 3 | — | 4 | 4 | — | — | 3 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | 4 | 3,0 |
| 21. Горацкі | 2 | 5 | 4 | 3 | 5 | — | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 3,6 |
| 22. Грэскі | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 0 | 2 | 5 | 3 | 3 | 2 | 4 | 5 | 5 | 5 | 3,3 |
| 23. Даманавіцкі | 2 | 3 | 5 | — | 4 | 3 | 3 | 5 | — | 5 | 3 | 2 | 3 | 3 | 4 | 3,5 |
| 24. Добрушскі | 3 | 3 | 4 | 2 | 4 | — | 5 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 0 | 4 | 3,2 |
| 25. Дрыбінскі | 2 | 5 | 5 | — | 3 | 4 | 4 | 2 | 3 | 4 | 2 | 4 | 4 | 3 | 5 | 3,5 |
| 26. Дрысенскі | 2 | 4 | 5 | 4 | 3 | 0 | 5 | 2 | 4 | 2 | 3 | 3 | 4 | 5 | 5 | 3,5 |
| 27. Дубровенскі | 3 | 5 | 4 | 3 | 3 | 0 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3,0 |
| 28. Ельскі | 2 | 5 | 5 | — | 5 | 3 | 5 | 2 | 5 | 5 | 2 | 4 | 5 | 4 | 5 | 4,2 |
| 29. Жлобінскі | 3 | 5 | 5 | — | 3 | 4 | 4 | 2 | 2 | 2 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3,4 |
| 30. Журавіцкі | 3 | 5 | 3 | — | 3 | 4 | 3 | 2 | — | 2 | 3 | 4 | 4 | 2 | 4 | 3,2 |
| 31. Жыткавіцкі | 2 | 3 | 5 | 3 | 3 | 4 | 3 | 2 | 4 | 5 | 3 | 4 | 3 | 5 | 5 | 3,7 |
| 32. Заслаўскі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 2 | 4 | 4 | 5 | 3,7 |
| 33. Камарынскі | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 3 | 3 | 2 | 3 | 2 | 4 | 3,6 |
| 34. Капаткевіцкі | 3 | 2 | 4 | — | 3 | — | 3 | 3 | — | 2 | 2 | 4 | 3 | 0 | 3 | 2,6 |
| 35. Кармянскі | 2 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4,0 |
| 36. Касцюковіцкі | 1 | 5 | 3 | — | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4,5 |
| 37. Кіраўскі | 2 | 4 | 4 | — | — | — | 5 | 4 | 3 | 5 | 2 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4,0 |
| 38. Клімавіцкі | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 3 | 2 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3,2 |
| 39. Клічаўскі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 2 | 4 | 4 | 5 | 5 | 3,6 |
| 40. Копыльскі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 0 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 4 | 3,6 |
| 41. Круглянскі | 3 | 4 | 4 | — | 3 | 0 | 5 | 5 | 4 | 2 | 2 | 4 | 4 | 3 | 4 | 3,3 |
| 42. Крупскі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 3 | 3 | 4 | 2 | 2 | 3 | 4 | 4 | 3 | 5 | 3,6 |
| 43. Крычаўскі | 2 | 4 | 5 | — | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 | 3 | 5 | 3,9 |
| 44. Лагойскі | 3 | 4 | 5 | — | 3 | 0 | 3 | 2 | — | 2 | 5 | 4 | 4 | 2 | 5 | 3,2 |
| 45. Лельчыцкі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 0 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 4 | 2 | 4 | 3,6 |
| 46. Лепель (горад) | 3 | 4 | 4 | — | 0 | 3 | 4 | 2 | 3 | — | — | — | — | — | 5 | 3,1 |
| 47. Лепельскі | 3 | 4 | 4 | — | 5 | 4 | 3 | 2 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 0 | 4 | 3,2 |
| 48. Лёзненскі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 4 | 4,0 |

## Ацэнка работы райінспектур наргасучота за кастрычнік 1937 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Механічны рух насельн. | Натуральны рух насельн. | Бюджэты | Цэны калгаснага гандлю | Грамадскае харчаванне за III кв. | Учот працы | | | | Квартальная справаздачнасць калгасных ферм за III кв. | Прадстаўленне даных аб стратах | Прадстаўленне даных па абмалотах | Праверка ўчота ў калгасах | Школы ўсеагульнага навучання | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Бягучы ўчот за III кв. | Прамыслов. | Будаўніцтва | Соўгасы і МТС. | | | | | | |
| 49. Лоеўскі . . . | 2 | 5 | 3 | — | 3 | 0 | 4 | 4 | 4 | 3 | 2 | 5 | 4 | 5 | 5 | 3,6 |
| 50. Любаньскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 3 | 5 | 4 | 5 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 | 5 | 4 | 4,2 |
| 51. Магілеў (гор.) | 2 | 5 | 5 | — | 3 | — | 4 | 4 | 3 | — | — | — | — | — | 4 | 4,0 |
| 52. Магілеўскі . . | 3 | — | 4 | — | — | 0 | 3 | 5 | — | 4 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 3,4 |
| 53. Мазыр (горад) | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 4 | 3 | 3 | 4 | — | — | — | — | — | 5 | 4,1 |
| 54. Мазырскі . . . | 2 | 5 | 3 | — | — | — | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 5 | 4 | 2 | 4 | 3,8 |
| 55. Менск (горад) | 2 | 5 | 5 | — | 5 | 3 | 4 | 3 | 3 | — | — | — | — | — | 5 | 4,1 |
| 56. Менскі . . . . | 3 | 4 | 4 | 2 | — | 0 | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 2 | 3 | 3,1 |
| 57. Мехаўскі . . . | 3 | 5 | 4 | — | 3 | 0 | 4 | 3 | 2 | 2 | 2 | 3 | 4 | 3 | 4 | 2,9 |
| 58. Мсціслаўскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 5 | 4 | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3,6 |
| 59. Нараўлянскі . | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 4 | 3 | 2 | 3 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4,0 |
| 60. Аршанскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 5 | 5 | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 2 | 5 | 4,0 |
| 61. Парыцкі . . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 3,5 |
| 62. Петрыкаўскі . | 3 | 4 | 4 | — | 4 | 0 | 2 | 4 | 3 | 5 | 3 | 5 | 4 | 0 | 3 | 3,1 |
| 63. Плешчаніцкі . | 3 | 4 | 4 | — | 4 | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 2 | 0 | 4 | 3 | 4 | 3,0 |
| 64. Полацк (горад) | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | — | — | — | — | — | 5 | 4,2 |
| 65. Полацкі . . . . | 2 | 5 | 4 | — | — | — | 4 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 5 | 3 | 4 | 3,9 |
| 66. Прапойскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 5 | 3 | — | 3 | 5 | 3 | 4 | 5 | 2 | 4 | 3,6 |
| 67. Пухавіцкі . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 4,3 |
| 68. Рагачоўскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | 5 | 4 | 2 | 4 | 3 | 3 | 4 | 5 | 5 | 3,7 |
| 69. Расонскі . . . | 2 | 3 | 4 | 4 | 3 | 0 | 5 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 3 | 5 | 3,5 |
| 70. Рэчыцкі . . . | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | 0 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 3,7 |
| 71. Свяцілавіцкі . | 2 | 5 | 4 | — | — | 5 | 4 | 2 | — | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 3,8 |
| 72. Сенненскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 2 | 3 | 2 | 3 | 1 | 3 | 4 | 5 | 3,5 |
| 73. Сіроцінскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 2 | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 4,1 |
| 74. Слуцк (горад) | 2 | 4 | 4 | — | 2 | — | 4 | 4 | 3 | — | — | — | — | — | 5 | 3,7 |
| 75. Слуцкі . . . . | 3 | 4 | 4 | 4 | — | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 3 | 2 | 4 | 0 | 4 | 2,9 |
| 76. Смалявіцкі . . | 3 | 5 | 5 | — | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 3 | 2 | 3 | 5 | 2 | 5 | 3,3 |
| 77. Смілавіцкі . . | 3 | 3 | 4 | — | 5 | 3 | 4 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 0 | 3 | 3,2 |
| 78. Старадарожскі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4,2 |
| 79. Старобінскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 3 | 0 | 5 | 5 | 3 | 5 | 3 | 4 | 4 | 2 | 4 | 3,6 |
| 80. Суражскі . . | 2 | 4 | 3 | 2 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 2 | 5 | 3,5 |
| 81. Талачынскі . | 2 | 4 | 4 | — | 4 | 0 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3,9 |
| 82. Тураўскі . . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | — | 3 | 3 | — | 3 | 4 | 5 | 5 | 3 | 4 | 3,9 |
| 83. Уваравіцкі . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 2 | 3 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4,0 |
| 84. Уздзенскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 5 | 4,3 |
| 85. Ушацкі . . . | 3 | 5 | 4 | — | 3 | 0 | 5 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3,4 |
| 86. Халопеніцкі . | 2 | 3 | 5 | — | 4 | 0 | 5 | 5 | — | 5 | 4 | 0 | 5 | 2 | 5 | 3,5 |
| 87. Хоцімскі . . . | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 3,6 |
| 88. Хойніцкі . . . | 2 | 5 | 4 | — | 5 | 3 | 5 | 3 | 2 | 3 | 5 | 2 | 5 | 4 | 5 | 3,9 |
| 89. Церахоўскі . | 3 | 5 | 4 | — | 4 | 0 | 5 | 2 | — | 3 | 2 | 5 | 5 | 2 | 4 | 3,4 |
| 90. Чаускі . . . . | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 3 | 4 | 4 | 3 | 5 | 4,3 |
| 91. Чачэрскі . . . | 2 | 5 | 3 | — | 3 | 5 | 5 | 4 | — | 5 | 3 | 5 | 3 | 4 | 4 | 4,0 |
| 92. Чашніцкі . . . | 2 | 5 | 4 | 4 | 4 | — | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 2 | 4 | 3 | 5 | 4,1 |
| 93. Чырвонапольскі | 2 | 5 | 4 | — | 4 | 4 | 5 | 3 | 2 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4,0 |
| 94. Чырвонаслабод. | 2 | 5 | 4 | — | 3 | 5 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3,7 |
| 95. Чэрвеньскі . . | 2 | 5 | 4 | — | 4 | — | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 3,8 |
| 96. Чэрыкаўскі . | 2 | 5 | 4 | — | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 4 | 3 | 2 | 5 | 2 | 5 | 4,0 |
| 97. Шклоўскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 4 | 5 | 3 | 2 | 3 | 3 | 2 | 5 | 5 | 2 | 3 | 3,6 |

